27 красавіка 1999 г. аўторак

# НАВІНЫ

№44 (575) кошт свабодны



стр.4

# Начны візіт

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Уноч на панядзелак, 26 красавіка, у Мінску быў абрабаваны перадвыбарчы штаб кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра. Невядомыя ўзламалі жалезныя краты, выбілі аконную шыбу і скралі з офіса камп'ютэр, тэлевізар і факс, агульным коштам каля 1.500 долараў.

Супрацоўнікі штаба, якія прыйшлі раніцай на працу, убачылі толькі пустыя сталы і вывернутыя на падлогу шуфляды. Побач на крэсле ляжала запіска, аўтары якой раілі шукаць скрадзеную тэхніку ў Фрунзенскім райаддзеле міліцыі.

Па словах актывіста каманды Чыгіра палкоўніка Уладзіміра Барадача падзеі разгортваліся наступным чынам. Прыкладна ў дзве гадзіны ночы жыхар дома, дзе месціцца офіс былога прэм'ера, заўважыў двух невядомых у масках, якія пілавалі краты на акне штаб-кватэры. Сусед адразу ж патэлефанаваў у міліцыю, але дзяжурны нарад прыехаў на месца злачынства толькі праз дзве гадзіны. Міліцыянты пакруціліся перад зачыненымі дзвярыма і хутка з'ехалі. Супрацоўнікі штаб-кватэры прыслухаліся да парады злодзеяў і самі патэлефанавалі ў міліцыю. «Прыязджайце ў пастарунак і на месцы будзем разбірацца», — прагучала ў адказ.

На думку Уладзіміра Барадача, абрабаванне кватэры з'яўляецца звычайнай інсцэніроўкай. Рабаўнікі толькі для віду паламалі краты, а самі трапілі ў штаб праз дзверы. «Іх цікавіла перапіска Чыгіра з вядомымі расійскімі палітыкамі, якая знаходзілася ў камп'ютэры, і іншыя дакументы», — упэўнены палкоўнік Барадач.

Жонка арыштаванага экс-прэм'ера Юлія Чыгір лічыць, што арганізатары гэтага бязглуздага абрабавання ставілі мэту сарваць работу перадвыбарчага штаба.



Злодзеі пакінулі ў офісе запіску наступнага зместу: «Вам необходимо обратиться во Фрунзенский РОВД по телефону 252-02-02»



Распілаваныя краты на акне штаб-кватэры Чыгіра

## Гарачая лінія

### Снарады на праспекце Скарыны

Учора ў падвале чацвёртага корпуса політэхнічнай акадэміі, які знаходзіцца на праспекце Скарыны ў Мінску, знайшлі шэсць артылерыйскіх снарадаў выпуску 1936 года. Выкліканы «Алмаз» вывез снарады на палігон для падрыву. Як патлумачылі ў гарадскім штабе грамадзянскай абароны, боепрыпасы былі знойдзеныя выпадкова, «падчас навядзення парадку ў падвале».

Мяркуюць, што ў гады вайны ў будынку знаходзілася нямецкая камендатура, якая і пакінула снарады.

*Мікола ВАЙТОВІЧ*

### 1 траўня — шэсце і мітынг

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) падала ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне 1 траўня шэсця і мітынгу, прысвечаных Святу працы. Мэта акцыі — «падтрымка сацыяльна-эканамічных правоў грамадзянаў». Плануецца, што шэсце пачнецца а 10-ай гадзіне з плошчы Якуба Коласа да плошчы Незалежнасці, дзе і пройдзе святочны мітынг. Заяўленая колькасць удзельнікаў — да сямі тысяч чалавек.

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ*

### Мінімальная зарплата - мільён рублёў

З 1 траўня памер мінімальнай заработнай платы складзе 1 000 000 рублёў; тарыфная стаўка першага разраду — 2 150 000 рублёў.

Работнікам бюджэтнай сферы вызначаны штомесячныя даплаты ў памеры ад 100 000 да 1 700 000 рублёў у залежнасці ад разраду.

Нагадаем, што цяперашнім часам памер мінімальнай зарплаты ў Беларусі складае 500 000 рублёў. Згодна з інфармацыяй міністэрства статыстыкі і аналізу, сярэдняя налічаная зарплата рабочых і служачых у сакавіку склала 12 446 889 рублёў.

*Аддзел інфармацыі*

# Женщины вступились за Тамару Винникову

**Елена СВЕТЛОВА**

**«Закрытый судебный процесс над Тамарой Винниковой состоится даже в ее отсутствие и на нем моей подзащитной будет вынесен заведомо обвинительный приговор». Так заявила во время выступления на конференции «Современная женская «повестка дня» адвокат Людмила Ульяшина.**

Конференцию организовало женское христианско-демократическое движение — первая общественная организация, которая два года назад выступила в поддержку Тамары Винниковой, потребовав от властей изменения ей меры пресечения. Через несколько месяцев Винникова была освобождена из СИЗО под подписку о невыезде. По мнению Людмилы Ульяшиной, в отечественной юридической практике уже имеют место суды в отсутствие подсудимых. Например, когда эти лица находятся в розыске.

Находясь в следственном изоляторе, женщина испытывает значительно больше страданий, чем мужчина. Здесь никаких бытовых условий для осуществления женской гигиены, более того, за женщиной постоянно смотрят охранники-мужчины. Тамара Винникова, по некоторым сведениям страдающая гинекологическими заболеваниями, прошла через все это. Долгие допросы на холоде только усугубили патологию. В последнее время болезнь прогрессировала, у Винниковой начались сильные кровотечения, и она часто теряла сознание. Тамаре Винниковой необходима была немедленная операция, но условия, в которых ее содержали, провести такую операцию не позволяли. Более того, Винникова вообще не получала помощи специалиста-гинеколога. Как известно, заболевание требовало определенного способа осмотра. Этот, как и любой другой медицинский осмотр, не разрешалось производить без охраны.

По словам Л.Ульяшиной, ей как защитнику до настоящего времени неизвестно, на каком основании в квартире у Винниковой круглосуточно находилось несколько сотрудников Главного управления Госохраны, входящих в структуру спецслужб. Они контролировали каждый шаг Тамары Дмитриевны. Охрана заняла большую из ее 2-х комнат. В распоряжении Винниковой осталась только спальня. Ее путь в ванную, кухню и туалет тщательно контролировался. Своих гостей – родственников, священника, адвоката – бывший банкир могла принимать лишь в определенные дни и в определенное время. На вопрос о том, как Винникову незадолго до ее исчезновения могли посетить люди из другого круга, Л.Ульяшина ответила: «Здесь вопросов больше, чем ответов. В последние дни количество охранников в квартире увеличилось». Существующие версии исчезновения Тамары Винниковой Людмила Ульяшина комментировать отказалась.

Судя по докладам, представленным на конференции, в «женскую повестку дня» были включены не только традиционно женские вопросы. Например, экологическая ситуация в РБ, война в Югославии, права человека. По этим вопросам, а также по ситуации с Тамарой Винниковой были приняты документы. В частности, в резолюции по Т.Винниковой говорится, что ее права человека были нарушены с момента задержания до исчезновения. Конференция обратилась с требованием к властям дать отчет об исчезновении Тамары Винниковой, а также направила заявления в международные организации об осуществлении контроля над ее делом. ■

## Юрий ЗАХАРЕНКО: «Сочту за честь сидеть в одной камере с Чигирем»

**По мнению экс-министра, Александр Лукашенко «зачищает» политическое поле перед президентскими выборами, которые очень скоро объявит; Тамара Винникова жива, а смерть Геннадия Карпенко после смены власти станет предметом особого разбирательства.**



**Беседу Алеся ДАЩИНСКОГО с Юрием ЗАХАРЕНКО читайте на стр.3**

## НАДВОР'Е




27 красавіка па Беларусі будзе пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, вецер усходні, 3-8 м/сек.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**395 000**

# Сочту за честь...

Алесь ДАЩИНСКИЙ

**Официальные власти расставляют новый капкан. На этот раз мишенью стал бывший министр внутренних дел Юрий ЗАХАРЕНКО. Гомельская прокуратура «шьет» ему уголовное дело по статье, которая называется так: «воздействие на работника милиции с целью воспрепятствовать выполнению им служебных обязанностей» и предусматривает исправительные работы до одного года или штраф.**

Несмотря на отставку, Юрий Захаренко по-прежнему опасен для властей, так как имеет скрытое влияние на силовые структуры. Экс-министр дал интервью НАВІНАМ, в котором высказал свои версии относительно всех громких скандалов последнего месяца.

**— Юрий Николаевич, как Вы узнали о том, что на Вас объявлена «охота»?**

— Меня по-дружески предупредили работники милиции, что против меня возбуждено уголовное дело. Потом я выяснил, что постановление о возбуждении написано еще 23 марта. В следственной практике это нонсенс — подозреваемое лицо не знает о возбуждении уголовного дела, у него даже не взято объяснение. Нет сомнения, дело против меня заказное, делалось в спешке. Все прекрасно понимают, что состава преступления в моих действиях нет, и дело не имеет судебной перспективы.

**— Вы живете в Минске, а дело почему-то возбудили в Гомеле и даже объявили в розыск Ваши «Жигули»...**

— Я являюсь координатором по Гомельской области в штабе кандидата в президенты Михаила Чигиря, и об этом все хорошо знали. Понадобилось меня нейтрализовать. Автомобиль у меня уже 12 лет, его узнают в Гомеле, в свое время на нем катался по служебным делам весь местный следственный аппарат.

Меня возмутило, что замначальника УВД Анатолий Соловьев объявил в розыск мой автомобиль, на котором когда-то сам ездил. В свое время Соловьев всячески демонстрировал преданность моей семье и родственникам. Я решил поговорить с этим человеком. Разыскивая Соловьева, позвонил другому очень близкому товарищу по службе, с которым мы дружили с лейтенантских погонов, замначальнику УВД Владимиру Мельникову. В телефонном разговоре я посоветовал моему сослуживцу не нарушать конституцию и законы, потом, говорю, будешь раскаиваться, ведь всему будет дана оценка. И вообще не позорьтесь, не милицейское это дело заниматься политическим сыском. Примерно в таком ключе мы поговорили по телефону с начальником отдела УВД Горковым и перед моим отъездом из Гомеля с самим Соловьевым. Это были личные беседы с людьми, знакомыми мне с юношества. После этого появились три рапорта этих сослуживцев о том, что я им звонил и «воздействовал». Но как может воздействовать человек, находящийся на пенсии, не имея никаких властных и политических полномочий? И как могли эти трое дойти до того, чтобы писать рапорт на человека, с которым десятки лет вместе служили? Причем люди, которые сделали карьеру с моей подачи. Воистину резерв человеческого падения безграничен.

Кстати, в 1937 году коллеги уничтожали коллег, друг на друга писали рапорта, анонимки и извинялись: извинялись — задерживали, извинялись — гноили в тюрьмах, расстреливали. Аналогичная ситуация сегодня, только не возят в Куропаты, но «расстреливают» другими способами. Мы видели это на примере Карпенко и Майсени. В ходу клевета, ложь, авантюризм, психологическое и моральное уничтожение неугодных. Вспомните депутата Верховного Совета Козловского, которого гонениями и издевательствами довели до самоубийства. В итоге мы теряем лучших людей страны.

**— Почему опасным для режима оказался теперь Захаренко?**

— Как говорят военные, идет «зачистка» политического поля. Лукашенко поставил задачу — очистить это поле в ближайшие несколько месяцев. Александр Григорьевич планирует выборы, ему все-таки придется разыграть эту карту. Многое будет зависеть, конечно, от принципиальной позиции европейских стран. Сейчас он смело может идти на выборы, потому что более благоприятной экономической ситуации у него уже не будет, к тому же надо реабилитироваться перед Европой, прикрыться мнением народа. Лукашенко сам назначит себе соперника, поиграется, и в результате останется то, что и было. Теперь для него главное — успешно провести «зачистку».

В итоге основной удар пришелся по крылу демократического движения из «бывших», вызывающего наибольшую тревогу. Ведь лидеров БНФ сегодня практически никто не трогает, их тактика и стратегия не мешает властям. В этом движении очень много политиков, которых я глубоко уважаю, они уже переросли своих руководителей. Некоторым лидерам Фронта нужно поступиться своими личными амбициями, дать поработать новым людям.

**— Вы объявили призыв в белорусский Союз офицеров, и власти, похоже, именно этого и испугались.**

— Инициатива получила хороший отклик во всех силовых структурах. Эта идея правильная, и мы обязательно сформируем Союз в рамках существующего законодательства. Я убежден, что правящая верхушка потеряла силовые структуры, и ее контрмеры похожи на агонию. Стоило мне зайти к начальнику следственного комитета Смоленцеву, чтобы поговорить по поводу незаконного помещения Чигиря в КПЗ, как его снимают с должности. Такие же гонения применяются к другим руководителям, которые не «просигналят» о встрече со мной.

Власти пытаются создать вокруг меня некое табуированное поле, чтобы все шарахались. В итоге получается обратная реакция. Теперь, когда против меня возбуждено уголовное дело, работники милиции готовы мне помогать, предоставлять убежище, защищать. Это касается и работников КГБ, которых втянули в эту грязную историю. Я осведомлен, какие задачи ставятся перед разведкой и контрразведкой, но им ничего не удастся. Личный состав, мягко говоря, просто не уважает президента и своих прямых начальников — министров.



Юрий Захаренко возле машины Виктора Гончара, взломанной сотрудниками милиции 1 марта 1999г.

**— Как Вам кажется, силовики проморгали Винникову или это хорошо спланированный спецслужбами план?**

— В силу своих служебных обязанностей я хорошо знаю Тамару Дмитриевну. Когда возникла идея продвижения её на пост председателя Нацбанка, я сказал, что ее ожидает «отстрел» или тюрьма. Она ответила, что скоро слетит моя голова, хотя тогда я уже знал о своей судьбе. Вскоре после этого памятного разговора ее арестовали. Я очень сочувствую этой женщине, с ней расправляются незаконно, хотя Винникова совершила очень много ошибок на своих должностях. Не приходится говорить о ее принципиальной позиции на олимпе власти, она все время играла перед Лукашенко, Шейманом, Мясниковичем, Чигирем и в итоге попала туда, куда попала. Не хочу комментировать версии ее исчезновения, но думаю, что Тамара все-таки жива и здравствует. Теперь скоро встанет вопрос торга: сдаст ли она всю информацию либо продаст ее им же.

**— После разговора с Винниковой не стало Карпенко...**

— Тут очень много вопросов лично у меня. Рано или поздно все равно придется вернуться и к этой встрече, и к этой смерти.

**— Юрий Николаевич, еще одно громкое событие, о котором хочется услышать Ваше мнение, — арест кандидата в президенты Михаила Чигиря.**

— На телевидении раскрутили клеветническую кампанию, заранее сделали Чигиря преступником. Полковник Лавренюк, который во многом обязан мне своей карьерой, и председатель комиссии палаты Глуховский (тоже бывший следователь, близко мне знакомый) публично обвиняют Чигиря в хищении. Это делают юристы, которые обязаны знать, что согласно конституции никто не может быть признан виновным, иначе как по приговору суда.

Да ничего Чигирь не крал, в его действиях отсутствует состав преступления. Никакого отношения к миллиону долларов он не имеет. У следствия нет никаких материалов, подтверждающих хищение. Сейчас они мечутся, как бы найти халатность в его действиях или превышение полномочий. Разве за это людей держат в тюрьме?

Следственный комитет МВД превратился в демонический, сатанинский меч правящего режима. Все грязные, заказные дела проходят через их руки, а начальником следственного комитета МВД назначен тот же печально известный Глуховский. Обидно, что это мое «детище», которое я когда-то создавал.

Два месяца назад у нас был откровенный разговор с Чигирем о том, что его арест и преследования сторонников неизбежны. Михаил Николаевич тогда сказал: «Я готов к такому исходу, разве дело в моей судьбе, когда любой человек, имеющий совесть, должен делать для собственной страны все от него зависящее». Преклоняюсь перед этим скромным, порядочным и мужественным человеком. Он не стал реагировать на клеветнические и оскорбительные письма Зенона Пазьняка из-за границы. В этом весь Чигирь. Надеюсь, у Пазьняка хватит совести извиниться перед ним. И если судьба уготовила мне одну камеру с Чигирем, то сочту это за честь. ■

# Аддай мільён!

Юлія Чыгір падазрае прэзідэнта ў тым самым крадзяжы мільёна долараў, які прыпісваюць яе мужу.

Алесь ПАЎЛОВІЧ

Жонка былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра зноў пайшла ў атаку. Аб сваіх падазрэннях наконт прэзідэнта яна паведаміла ў заяве, якую накіравала генеральнаму пракурору Беларусі Алегу Бажэлку. Юлія Чыгір не выключае, што мільён долараў, які па папярэдняй версіі пракуратуры скраў яе муж, на самой справе знік не без удзелу Аляксандра Лукашэнкі. Аргументы ў жонкі кандыдата ў прэзідэнты Чыгіра наступныя.

«Аграпрамбанк, якім у 1994 годзе кіраваў мой муж, меў устойлівае фінансавае становішча, высокія прыбыткі і рэальную магчымасць пабудаваць новы офіс», — піша пракурору Юлія Чыгір. Яна падмацоўвае гэта дакументамі на забудову пляцоўкі, выдадзенымі банку па ўзгадненні са службамі горада. Таксама Юлія Чыгір заўважае, што Аграпрамбанк быў камерцыйным банкам, і мільён долараў, што пералічылі на будаўніцтва офіса, — гэта прыбытак акцыянераў і калектыва банка, якім яны маглі распараджацца па ўласным жаданні. Акцыянеры і калектыў вырашылі накіраваць грошы на будаўніцтва офіса банка, заключылі кантракт з канадскай фірмай Lawrence Avenue Group Ltd (прэзідэнт — Айзек Майселс) і пералічылі 24 сакавіка 1994 года на разліковы рахунак гэтай фірмы аванс пад пачатае будаўніцтва ў памеры 1 млн. долараў ЗША.

Жонка экс-прэм'ера ўзгадвае, што ў ліпені 1994 года М.Чыгір па прапанове А.Лукашэнкі ўзначаліў урад краіны, і пабудовай новага офіса Аграпрамбанка заняліся іншыя людзі (у тым ліку Аркадзь Барадзіч, сцвярджаецца ў заяве). Між тым, з тых часоў прыбыткі банка сталі імкліва зніжацца, і ў выніку новае кіраўніцтва ўвогуле адмовілася ад супрацоўніцтва з канадцамі. «У сваю чаргу і канадская фірма адмовілася вярнуць грошы, спасылаючыся на тое, што яны былі ўкладзеныя ў абсталяванне, якое ў Беларусі не вырабляецца», — сцвярджае Ю.Чыгір. Далей яна пераходзіць непасрэдна да асобы прэзідэнта. «У звычайнай практыцы гэтыя страты называюцца стратамі ад няўмелай гаспадарчай дзейнасці, аднак А.Лукашэнка сцвярджае, што мільён долараў скрадзены. Магчыма, А.Лукашэнка ведае, пра што кажа, паколькі канадскую фірму М.Чыгіру рэкамендаваў чалавек з каманды Лукашэнкі Аркадзь Барадзіч. Блізкі да Лукашэнкі быў і Айзек Майселс. Так, Барадзіч і Майселс у 1994 годзе валодалі ў Мінску сумесным прадпрыемствам «Каруна-Канада», а ў офісе даччыннай фірмы гэтага СП на вул.К.Маркса размяшчаўся перадвыбарчы штаб кандыдата ў прэзідэнты А.Лукашэнкі».

Такім чынам, Юлія Чыгір не выключае, што прэзідэнт меў дачыненне да знікнення мільёна долараў, што пайшоў у Канаду і адтуль не вярнуўся, і раіць пракуратуры дапытаць А.Лукашэнку. «Пакуль у якасці сведкі», — прапануе Ю.Чыгір. ■

ЭКАНОМІКА

# Захад ратуе Беларусь?

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

Вядома, што калі тую ці іншую краіну хочуць за нешта пакараць, супраць яе выкарыстоўваюць санкцыі. Напрыклад, дамаўляюцца, што ніхто ў Ірака не будзе купляць нафту, а Югаславіі — прадаваць зброю. А супраць «парушальнікаў канвенцыі», калі такія знойдуцца, таксама будуць ужытыя адпаведныя меры.

Але бывае, што краіна карае сама сябе. За непрадбачлівасць ці там за эканамічны рамантызм. Нешта падобнае адбылося з Беларуссю, якая з восені мінулага года сутыкнулася з праблемай скарачэння свайго знешнегандлёвага абароту. Для беларускай эканомікі, арыентаванай на экспарт, гэта вельмі непрыемная з'ява, галоўнай прычынай якой стала спроба Беларусі любой цаной рэанімаваць свае былыя неэфектыўныя гаспадарчыя сувязі з Расіяй.

Нельга не адзначыць, што беларускі ўрад ведаў аб гэтай пагрозе, але ж імкненне скарыстаць Расію як лакаматыў для беларускай гаспадаркі перамагло здаровы сэнс. І да так званага дэфолта, пакуль расійскі рынак так-сяк целяпаўся, справы ў Беларусі таксама выглядалі няблага.

Але пасля леташняга жніўня сітуацыя радыкальна змянілася. Што мы цяпер маем? За два месяцы бягучага года ў параўнанні са студзенем—лютым 1998 года знешнегандлёвы абарот нашай краіны, па дадзеных мінстата, скараціўся амаль на 1/3, у тым ліку экспарт — на 28,5 працэнта, а імпарт — амаль на 40 працэнтаў.

Пры гэтым паказчыкі знешняга гандлю з краінамі СНД зменшыліся больш чым на 40 працэнтаў, а экспарт у Расію — амаль удвая. У дадатак у параўнанні са студзенем—лютым мінулага года за два месяцы бягучага адмоўнае знешнегандлёвае сальда з Расіяй павялічылася з 22,6 да 75,3 мільёна долараў ЗША. Што тычыцца СНД, то, з пункту гледжання эканомікі, яна даўно стала для Беларусі своеасаблівай пустэчай: на яе, калі выключыць Расію і Украіну, прыпадае менш 2 працэнтаў знешняга гандлю Беларусі.

З іншага боку, краіны далёкага замежжа, дзе, як гэта паўтаралі на розных узроўнях у апошнія гады, беларускую прадукцыю ніхто не чакае, павялічылі свае закупкі у Беларусі ў параўнанні са студзенем—лютым мінулага года больш чым на 1/4. Калі ж падводзіць рысу, то трэба канстатаваць: у структуры знешняга гандлю Беларусі доля СНД і Расіі скарачаецца, а доля краінаў далёкага замежжа расце. Інакш кажучы, каб не ажыўленне гандлю з Захадам, то страты, якія панесла Беларусь ад сваёй непрадбачлівай знешняй палітыкі, былі б яшчэ большымі і можа нават смяротнымі для яе эканомікі. ■

# Черная быль… черная боль…

## Пока страна строит катки, тысячи детей теряют надежду на жизнь

Виктория ТУРОВА

**Так получилось, что Беларусь в первую очередь ассоциируется с аварией на Чернобыльской АЭС. Трагедией, произошедшей не у нас и не по нашей вине. Катастрофой, от последствий которой страдает каждый пятый житель республики. Бедой, накрывшей две трети территории страны.**

Однако по прошествии 13 лет боль от Чернобыля притупилась и обнажилась его черная быль. Трагедия стала будничной. Как профессиональный нищий, отправляясь на паперть, обнажает самые кровоточащие язвы, так Беларусь все чаще, все громче и требовательнее говорит о своей беде. «МВФ не дает кредиты нам, пострадавшим от аварии на ЧАЭС», обижается Александр Лукашенко. «Надежды на иностранных инвесторов себя не оправдали», сетует Анатолий Малофеев. До развала СССР финансирование мероприятий по ликвидации последствий аварии осуществлялось из союзного бюджета. С 1992 года около 20 процентов государственного бюджета маленькой Беларуси уходило на решение этой проблемы. В последний год эта цифра снизилась до 10 процентов.

Тринадцать лет назад весь мир всколыхнула наша беда. Шла гуманитарная помощь, пострадавших детей вывозили на оздоровление, оснащались новейшей техникой медицинские центры. В последние годы интерес иностранцев к чернобыльской проблеме упал, все скуднее гуманитарная помощь, подтверждает главный врач Минского онкологического центра Виктор Ребеко. Он — практик. Ему можно верить.

«Волею судьбы Беларусь оказалась практически готовой к оказанию медицинской помощи людям, заболевшим радиацированным раком щитовидной железы в результате чернобыльской аварии», — говорит врач. Научно-практический центр опухолей щитовидной железы был создан еще в 1990 году. Число больных возрастало год от года, а мировое сообщество признало связь рака щитовидки с последствиями Чернобыля лишь в 1992 году. Только после этого последовала практическая помощь — в центре появилась сложнейшая ультразвуковая и другая аппаратура, стали регулярно поступать медицинские препараты для оперированных больных. Мюнхенский институт радиологических исследований имени Отто Хуга помог открыть гормональную и патоморфологическую лабораторию.

С помощью немцев создан и оснащен современным оборудованием банк тканей щитовидной железы. По словам Виктора Ребеко, «трагическое, но бесценное национальное достояние». Оказывается, уникальный банк тканей — ценнейший материал для фундаментальных медико-биологических исследований по раскрытию тайн ракового процесса, который может быть использован в течение 50 последующих лет, — охотно были готовы купить у хозяйственных белорусских администраторов американцы и японцы. Действительно, зачем заграничным ученым с белыми мышками мучиться, когда наши администраторы так запросто могут решить проблему «радиоактивных отходов» белорусской медицины. «За ничтожные подачки иностранцев из страны вывозились эпидемиологическая научная информация, биологические ткани и даже проводились эксперименты над детьми», утверждает врач.

Тем временем заболеваемость раком щитовидки у подростков до 18 лет выросла в 25 раз. Медики выдерживают такую нагрузку, констатирует главный врач центра. Чего не скажешь про технику. Присланные 7 лет назад в качестве гуманитарной помощи ультразвуковые аппараты после ежедневной



двухсменной эксплуатации уже исчерпали свои ресурсы. Не подлежат восстановлению большинство датчиков. Требует замены радиодиагностическая аппаратура. Даже здание, где находится радиологический корпус Минского центра, строилось по проекту 50-х годов. В любой момент санстанция или контролеры Госпроматома могут закрыть это отделение, потому что оно совершенно не соответствует санитарным нормам и требованиям радиационной безопасности. Реконструкция корпуса будет вестись уже в XXI веке за счет минской мэрии. Однако у государства нашлись средства, и финансовые, и материальные, на строительство нового ледового дворца. Только вот кто в том самом XXI веке будет в нем гонять шайбу?

За прошедшие 13 лет больные раком дети, проходившие лечение в Германии, Австрии, Италии, выросли. Им перестали выдавать визы на лечение в этих странах. Получив с детства категории инвалидности, они вырастают теряют право на инвалидность вообще. Но беда с возрастом не ушла. Она все также болит.

Будет эта беда болеть у нынешних детей. В 1985 году в среднем по республике из 1.000 новорожденных больными рождались 78, в год аварии на ЧАЭС — 85, в 1999 году 251 младенец родился серьезно больным. В структуре заболеваемости новорожденных на первом месте находится врожденная аномалия развития, то есть врожденное уродство. Поэтому женщины просто предпочитают не рожать. Рождаемость в республике все время снижается. Критическим стал 1993 год, когда впервые смертность превысила рождаемость. С каждым годом ситуация усугубляется. В 1998 году в Беларуси на 100 родов приходилось 137 абортов. В Гомельской области этот показатель составил 169 абортов на 100 родов. Все это ведет к демографическому срыву. Ведь нельзя забывать, что за прошедшие 13 лет более чем в 6 раз выросло число бесплодных браков по причинам мужской патологии и в три раза — женской.

Это не помешало государству в 1997 году прекратить финансирование программы «Охрана материнства и детства в условиях воздействия последствий катастрофы на ЧАЭС». Хотя во всех странах мира охрана материнства и детства является приоритетной областью развития здравоохранения. Несмотря на недостаток средств, об этом должно позаботиться государство, ведь речь идет о сохранении генофонда нации. Раздел «Дети Чернобыля» оказался исключенным из государственной научно-технической программы «Дети Беларуси». Сегодня в республике фактически не проводятся исследования в этом направлении и нет средств на то, чтобы заниматься оздоровлением детей, беременных женщин и кормящих матерей в загрязненных районах.

Ученые установили, что у детей, рожденных и проживающих в районах, загрязненных радионуклидами, изменения клеточного иммунитета обнаруживаются на первом году жизни. Имеется большая группа детей из разных регионов республики, которые страдают радиационно обусловленным синдромом приобретенного иммунодефицита. Нередко новорожденный получает дополнительную дозу радиации с молоком матери. Данные проведенного исследования биологической ценности грудного молока у кормящих женщин показали, что по содержанию витамина «С» оно полноценно только у пяти процентов обследованных, а количество свинца в пробах грудного молока было в 6, а в некоторых случаях и в 10 раз выше допустимого. У детей, переселенных из загрязненных районов Гомельской области, даже спустя 6 лет после катастрофы выявлены изменения иммунных защитных сил организма, свидетельствующие о длительном сохранении нарушений в системе иммунитета.

А в верхах все больше почитателей находит идея отправки на работу в загрязненные районы молодых специалистов. Появилось даже предложение организовать альтернативную воинскую службу для выпускников медицинских и педагогических вузов: не хочешь бегать с автоматом — иди преподавай или лечи в зоне.

Люди в зоне живут. Учатся, лечатся, работают. И даже зарабатывают: собирают бруснику, вырастающую с черешню, и лисички величиной с тарелку. И продают немцам. В Германии грязные грибы не едят, из них вырабатывают изотопы, которые отправляют потом в Беларусь. В онкологические центры. Чтобы лечить пострадавших от аварии. Замкнутый круг.

Хорошо известный в республике бывший высокопоставленный чиновник от медицины отказался давать интервью к годовщине трагедии. Сказал: врать не хочу, а правду сказать — не имею права. Вот такой белорусский Чернобыль. Такая боль. Такая быль. ■

# Сэрбская кампанэнта

Алег ДАШКЕВІЧ

Югаславія для мяне заўжды была краінай загадкавай і рамантычнай, краінай, якая выклікала павагу і валодала прыцягальнай сілай. У маім колішнім уяўленьні пра яе сплялся казачнасьць Адрыятыкі і зацятае змаганьне за волю з рознымі імпэрыямі, упартае супрацьстаяньне Сталіну пасьля Другой сусьветнай і сацыялістычная вольніца, куды за савецкім часам марыў патрапіць кожны з былога Саюза. Да таго ж, культ партызанкі і шматканфэсійнасьць краіны былі тымі рэчамі, якія рабілі падобнымі Югаславію і Беларусь. Але была, на маю думку, яшчэ адна паралель: у вобразе той Югаславіі, дзе паўставалі нобэлеўскія ляўрэаты, а творы культуры і мастацтва трымалі рэй у Эўропе, для Беларусі, дый ня толькі для нас, праступалі абрысы колішняй нашай краіны, мара аб якой спараджала ідэю «Сярэдняй Эўропы».

Чэслаў Мілаш сьцьвярджаў: «Я паходжу з краіны, якой даўна няма на мапе — Вялікага Княства Літоўскага».

Ляўрэат Канскага фэстывалю выбітны рэжысэр Эмір Кустурыца казаў, што здымае свае фільмы пра краіну, якой больш ужо не існуе.

Гэтыя два выказваньні яднае туга па часе Вялікай Культуры.

Вялікае Княства загінула, але здолела захаваць сваю культурную прастору, да якой сёньня, у выглядзе Сярэдняй Эўропы, апэлююць інтэлектуалы нашага рэгіёна. Югаславіі пасьля ўсіх этнічных чыстак, якія працягваюцца дагэтуль, аднавіць сваю культурную прастору ўяўляецца амаль немагчымым. Чаму так здарылася, чаму гэтая краіна захлынулася, дый зараз захлынаецца нянавісьцю, бо нават пры незалежных Македоніі, Харватыі, Славеніі, Босьніі Сэрбіі і Косаву з Чарнагорыяй можна было застацца Югаславіяй? Чаму Мілошавіч ня хоча разумець тое, што зразумеў Гавэл і нават Ельцын у Віскулях?

Зло спараджае большае зло. Ці вырашыла для сэрбаў вайна хаця б адну праблему?

Для Мілошавіча — так, вайна вырашыла праблему ўлады, а для ягонага народа?

Усім, відаць, даводзілася назіраць, а каму і ўдзельнічаць у бойках, якія, здавалася, узьнікалі зь нічога. Заўжды знойдзецца нехта, хто такім чынам вырашае зрабіць сабе аўтарытэт. Што з таго, што астатнія ня вельмі прагнуць бойкі. Яны вымушаныя ўдзельнічаць, па-першае, каб не паказаць, што збаяліся, па-другое, працэс, як той казаў, пайшоў: што рабіць, калі табе цэляць у вока?

Мілошавіч — гэта ня ўся Сэрбія, пагатоў ня ўся Югаславія, нават у сёньняшніх межах. Ня так даўно ён ледзь утрымаўся на сваёй пасадзе падчас шматтысячных дэманстрацыяў у Бялградзе і... загарэлася ў Косаве, зноў этнічныя чысткі і бежанцы, паўстала Армія вызваленьня Косава, заявы NATO пераўтварыліся ў налёты. Зноў вайна. Зло спарадзіла большае зло. Тыя, хто супрацьстаяў Мілошавічу ўнутры, мусілі пад ціскам новых абставінаў альбо далучыцца да рэжыму, альбо растаць. Незалежная прэса загнаная амаль у падпольле, замежных карэспандэнтаў выкідаюць з краіны, нават расейскіх.

Калі гавораць гарматы, музы маўчаць.

Хутка месяц, як NATO пляжыць Сэрбію бамбардаваньнямі, ракеты далятаюць і да Чарнагорыі з Косавам. Асабіста ў мяне гэта ніякага захапленьня не выклікае. NATO падкрэсьлівае, што іх вораг Мілошавіч, але на ягоную рэзыдэнцыю не ўпала ніводнае бомбы. Гінуць іншыя. Я гляджу на даведзеныя да экзальтацыі насельніцтва, якое днямі скача на рок-канцэртах, а па начох хаваецца па бамбасховішчах ці зь мішэнямі на грудзях стаіць ля сваіх заводаў, і разумею, што да такой ненармальнай сітуацыі людзей давялі, пазбавіўшы выбару. Скідаючы бомбы, магчымасьць выбару наўрад ці вернеш. З рэжымам Мілошавіча мусяць разабрацца самі югаславы, а пакуль працягваюцца налёты, у яго ёсьць шанц, дый ня толькі ў яго.

Сёньняшнія ўлады Югаславіі і Беларусі — яшчэ адна паралель.

Мілошавіч сустракаў Лукашэнку як аднадумца, лепш за Прымакова. Вядома, роднасная душа. Лукашэнка сёньня дома робіць заявы, што палякі хочуць адкусіць Гарадзеншчыну, а ўкраінцы — Берасьцейшчыну. З тэрытарыяльных прэтэнзіяў пачыналася і ў Югаславіі. Пад шум балканскай вайны кідаюць за краты кандыдатаў у прэзыдэнты, зьнікае арыштаваная банкірка, журналістаў адлоўліае ГБ. Дакладна як у сёньняшняй Югаславіі, дзякуй Богу, пакуль без вайны.

Мне аднолькава агідна тое, што зрабіў са сваім народам Мілошавіч, і тое, што з маім робіць Лукашэнка. Мне не падабаецца вайна як сродак. І не жадаю ўдзельнічаць ні ў якіх адыёзных саюзах. Беларусь — гэта далёка ня толькі Лукашэнка. Югаславія — гэта ня толькі Мілошавіч, але Югаславія сёньня — гэта перасьцярога ад такой самай Беларусі заўтра, дзе няма месца нават марам пра Вялікую Культуру, дзе ўсё запаланіла вайна.

Я гляджу ў экран тэлевізара на палаючыя заводы і разбураныя будынкі Сэрбіі, на забітых дя сваіх хатаў касаўскіх альбанцаў, на самалёты NATO і на прэзідэнта сёньняшняй Югаславіі і ўзгадваю Іва Андрыча, першага нобэлеўскага ляўрэата з Балканаў, пісьменьніка той Югаславіі, пра якую здымаў свае фільмы рэжысэр Эмір Кустурыца. Я ўзгадваю ягоны раман «Мост на Дрыне» і высновы Андрыча, што толькі бедствы ад прыроды чамусьці вядуць да збліжэньня, а тыя, што ад палітыкі, — да хіжніцтва. Я ўзгадваю, колькі сэнсу Андрыч у сваіх творах надаваў вобразу моста, вобразу ягонай Югаславіі, краіны, якой ужо няма. «З усяго, што чалавек паводле жыцьцёвага інстынкту ўзводзіць і будуе, на мой погляд, няма нічога лепшага і ладнейшага, як масты. Яны больш важныя за дамы і больш сьвятыя за храмы.

Усё — пераход, мост, краі якога зьнікаюць у бясконцасьці і параўнальна зь якім усе зямныя масты — толькі дзіцячыя цацкі, бляклыя сымбалі. А ўся наша надзея па той бок моста». (Іва Андрыч, эсэ «Масты»). Я гляджу на разбураны натаўскімі ракетамі мост у Новым Садзе і разумею: мост гэты разбурылі не ракеты, спачатку яго разбурылі мілошавічы ў людзкіх душах. Я гляджу на людзей, якія зь мішэнямі на грудзях, утварыўшы выцягнутымі рукамі жывы ланцуг, бароняць свае ацалелыя масты, і спадзяюся, што яны памятаюць творы Андрыча і фільмы Кустурыцы, што яны знойдуць сілы аднавіць масты ў сабе, і тады, можа быць, зьнікне Югаславія мілошавічаў ды NATO і вернецца Югаславія Андрыча і Кустурыцы, краіна, якая сёньня не існуе.

Мы ж мусім пільнаваць свае «масты», пакуль яны ў нас яшчэ не разбомбленыя. ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 537 Нумар падпісаны ў друк 26/04/99 (15:00) Наклад — 17.070